# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 27 (958) ГОД XIX БЕЛАСТОК 7 ЛІПЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.







Над сталіцай Любускай зямлі ўжо адгучалі савецкія песні, аднак уражанняў, якія засталіся пасля юбілейнага, дзесятага фестывалю немагчыма хутка забыць і мне здаецца, што ўсё яшчэ

*„Крылатые песни весенней порой,*
*Как птицы, летят над Зелёной Горой...”*

— як пад уражаннем гэтага свята дружбы і песні пісаў рускі паэт Уладзімір Сяргееў.

Тут варта напомніць, што 13 гадоў таму назад першы падобны агляд наладзіла ваяводскае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку. Пасля беластоцкую ініцыятыву перанялі грамадскія дзеячы Зялёнай Гуры і з уласцівай для іх энергіяй пераўтварылі яе ў шырока вядомае культурна-грамадскае мерапрыемства агульнадзяржаўнага значэння.

Удзельнікаў фестывалю — маладых выканаўцаў савецкай песні і запрошаных гасцей — Зялёная Гура сустрэла ўпрыгожаная, як паненка да шлюбу. Рознаколерныя транспаранты, сцягі, плакаты і неоны віталі гасцей, апавяшчалі, што калі ідзе, заахвочвалі да ўдзелу ў шматлікіх мерапрыемствах культурнага характару, якія спадарожнічалі фестывалю. Адным з іх быў канцэрт вакальна-танцавальнага ансамбля Паўночнай групы Савецкай Арміі. Ад гэтага канцэрта і пачаўся зялёнагурскі фестываль. Публіка доўга апладзіравала савецкім воінам за іх майстэрства.

Зараз жа пасля воінаў паявіліся на эстрадзе прадстаўнікі Гданьскага ваяводства — ансамбль „Спес”, што па-лацінску абазначае „Надзея”.

*„Касіў Ясь канюшыну...”*

— праняслося па прасторнаму амфітэатру, запоўненаму пяццю тысячамі гледачоў. У першую хвіліну я не паверыў сваім вушам, бо не спадзяваўся, каб самадзейнікі Гданьскага ваяводства маглі спяваць гэтую вядомую беларускую народную песню, праслаўленую ансамблем „Песняры”.

*„Касіў Ясь канюшыну,*
*Спаглядаў на дзяўчыну...”*

— прагучэла яшчэ раз у рэпрадуктарах. Цяпер я ў напружанні чакаў рэакцыі публікі. Воплескі ўзарваліся дружна і як бы аднадумна. Песня спадабалася. Конкурсная камісія, як аказалася пасля, таксама была аднадумная з публікай. За песню *„Касіў Ясь канюшыну”* яна прысудзіла ансамблю „Спес” **узнагароду** Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі.

Я хутчэй паімчаўся за кулісы амфітэатра, каб падзякаваць гданьскім самадзейнікам за прыхільнасць да беларускай народнасці. Аказалася, што яны не з Гданьска, а з горада Тчэў, што знаходзіцца ў Гданьскім ваяводстве. Аляксандра Капіх, Барбара Галінская, Ян Шаткоўскі, Казімір Астроўскі (які з'яўляецца кіраўніком ансамбля, Войцех Галінскі (муж Барбары), Войцех Антаневіч, Мар'ян Бяліцкі і Вітальд Палікровіч працуюць разам ужо паўтара года. Знайшлі апекуноў у міжспулдзельчым клубе спулдзельняў працы ў Тчэве. Песню *„Касіў Ясь канюшыну”* пачулі ў выкананні мінскіх „Песняроў”. Яна іх захапіла, і Войцех Галінскі — найлепшы з іх майстар у галіне музыкі — распрацаваў яе на галасы свайго ансамбля. Спявалі ва ўласным клубе і заваявалі першае месца на ваяводскім аглядзе, за што ваяводскае праўленне ТППР і ўлады праўлення спулдзельні аплачваюць ім паездку ў Савецкі Саюз.

Пачынае марасіць дождж, робіцца холадна. Цяжка вытрымаць пад голым небам. Больш вопытныя і прадбачлівыя гледачы прынеслі з сабой пледы і парасоны. Усе сядзяць, ніхто не ўцякае, хаця на сцэне толькі аматары. І так ужо будзе на працягу ўсіх дзён фестывальных спаборніцтваў. А ўступ у амфітэатр платны, білеты па 40 злотых. Аднак ахвотных больш, як месц у аграмадным амфітэатры, якога не мае нават Варшава.

Беластоцкі квартэт „Макс” выступіў на наступны дзень — у другой частцы конкурснага канцэрту. Дык быў час, каб пазнаёміцца з яго членамі і пажадаць ім поспехаў. У квартэце тры дзяўчыны: Яніна Хараманская, Оля Іванюк і Іаанна Сямёнава ды адзін хлопец — Януш Сабалеўскі. Дзве вучаніцы, адна настаўніца і студэнт медыцыны. Выступаюць пад фірмай клуба працаўнікоў гандлю „Гермес”. Спяваюць на польскай мове „Каскад Чэрамошу”. Песня спадабалася зялёнагурскаму журы, якое прадстаўнікам Беласточчыны дало ўзнагароду камітэта Польскага радыё і тэлебачання.

Ізноў ідзе дождж, публіка сядзіць да канца, да поўначы, а пазней яшчэ спяшаемся ў другі куток горада, у славутую **„пальмярню”**, каб паспець на канцэрт савецкай спявачкі Галіны Ненашавай. Пад высокімі сапраўднымі пальмамі арыгінальная кавярня. Ужо даўно за поўнач. П'ем чай і захапляемся цудоўным голасам. Яна і іншыя савецкія і польскія артысты выступілі яшчэ на **канцэрце дружбы**. Першая частка гэтага канцэрта прайшла пад праліўным дажджом, якому спадарожнічалі грымоты і маланкі. Дырыжор Генрых Дэбіх за кулісамі літаральна выліваў ваду з ботаў.

На шчасце. апошні фестывальны. парадны, канцэрт лаўрэатаў адбыўся пры цёплай бездажджлівай пагодзе. Зноў мы праслухалі і тчэўскі „Спес” з яго „Касіў Ясь канюшыну”, і беластоцкага „Макса”, і ўсіх іншых самадзейнікаў, для якіх песня засталася жыццёвай стыхіяй і штодзённай неабходнасцю.

**Віктар Рудчык**

---

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”**

● Вобраз філосафа (сустрэчы з землякамі) ● Фэстын у Саках ● Што новага ў рэнтах? ● Вецер з Палічнай ● Свята маладосці ў Нарве ● Зарубаў у ложку ● Беларуская літаратура на свеце ● Весткі з Кляшчэляў, Ажынніка, Пянькоў, Рудут, Рыбалаў, Слойкі, Гаркавіч, Гарадка, Спічак, Гайнаўкі, Чаромхі і інш. ● Французскі гумар ● Песня „Пшеница золотая”.

---




— Так ужо склалася, што са школай я звязаны, як толькі стаў самастойна пад стол пяшком хадзіць, — успамінае **Аляксандр Харкевіч** — дырэктар пачатковай васьмікласнай школы ў **Ляшуках**, што на Гайнаўшчыне. — У маіх бацькоў да вайны жылі на кватэры настаўнікі, аб школьных справах у сям'і гаварылася штодзень і многа, а хлапчук я быў рослы, у школу пачаў хадзіць на два гады раней, чым належалася. Я з 1923 года нараджэння, і майму пакаленню час для навукі выпаў неадпаведны, бурлівы. Пасля пачатковай школы ў Нараўцы паступіў я ў Свіслацкую гімназію. Правучыўся там два гады — успыхнула другая сусветная вайна. Пры Савецкай уладзе пайшоў вучыцца ў Чыгуначны тэхнікум у Беластоку, і таксама не ўдалося яго закончыць: насталі трагічныя дні гітлераўскай акупацыі. Вёску нашу немцы знішчылі, бо дапамагала партызанам. Жылі мы ў Ляўкове. Спачатку акупанты ганялі нас жаць збожжа і капаць бульбу на палях знішчаных вёсак, а потым забралі мяне на паднявольную працу ва Усходнюю Прусію. Некалькі год давялося быць парабкам у баўэра. Надта ж прыдзірлівы гэта быў чалавек, а работы было многа. Як сёння, памятаю ранак 2 лютага 1945 года, калі на панадворак убеглі вайскоўцы ў белых ахоўных халатах. Прыйшло доўгачаканае вызваленне!.. Сэрца рвалася дадому, і я пешшу, за два тыдні прыйшоў з Усходняй Прусіі ў Ляшукі. А тут, можна сказаць, ні кала, ні двара: жыццё адраджалася паволі, натужліва. Людзі прыбывалі на голыя папялішчы.






Сустрэў мяне аднойчы ў Ляўкове мой былы настаўнік Пётр Бабяк і кажа: „Што ж, братка, вярнуўся ты жыў-здароў, гэта ж проста шчасце. Пойдзем, паглядзім, што ў школе робіцца!” Зайшлі мы ў школу, глянуў я, і сэрца сціснулася: класы біткам набітыя, ні сшыткаў, ні кніжак, ні лавак, ні настаўнікаў. Стаў я прывучацца настаўніцкаму фаху ў Бабяка. Пачулі пра гэта сяляне з Ляшукоў і Міхнаўкі ды ка мне: „Злітуйцеся, — кажуць, — Шура, нашым дзецям проста не пад сілу аж у Ляўкова хадзіць. Давайце як-небудзь у Ляшуках школу згарудуем”. Нанялі пакойчык у незакончанай хаце, печ паставілі, сякія-такія лаўкі змайстравалі ды кажуць мне: „Вучы, браток, толькі каб у школе нашай беларуская мова была абавязкова!” І стаў вось так я настаўнікам і кіраўніком школы. А ў школе 120 дзяцей і адзін пакойчык! Як пайду, бывала, раніцай, на золаку і пакуль адвучу дзве змены, дык вяртаюся на змярканні. А рыхтавацца ж трэба было да кожнага ўрока. Так і пайшло — цэлую ноч пры газоўцы рыхтуюся, здрамну гадзінку, а ўвесь дзень у школе. Спачатку думаў, што не вытрымаю, а потым — уцягнуўся. І нават стаў вакол азірацца, каб як-небудзь пабудаваць асобны школьны будынак. Тадышні ляўкоўскі войт Уладзімір Харкевіх, чалавек удумлівы, былы партызан, прыслухаўся да маіх просьбаў, дапамог купіць у Нараўцы хату, а я склікаў сялян, перавезлі яе талакою, паставілі, абсталявалі і было ў нас усіх вялікае свята — у 1948 годзе дзеці вучыліся ўжо ў сваім школьным будынку.

Але не толькі школа яго займала. На пачатку трэба было здабыць настаўніцкія кваліфікацыі. Ад пачатку сваёй працы ён удзельнічае ў настаўніцкім прафесіянальным руху, уваходзіць у склад праўлення аддзела Саюза польскіх настаўнікаў у Гайнаўцы. Працы ў гэтай арганізацыі хапае. Ужо трэці па чарзе раз яго выбралі ў радныя Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы. Немалую ролю ў гаспадарчым жыцці вёскі адыгрываюць гмінныя кааператывы сялянскай самапомачы, і даверылі яму людзі адказны пост грамадскага старшыні надзорчай рады ГС-у ў Нараўцы.

Справы культуры яму таксама не абыякавыя.

Працяг на стар. 4

МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

# Яднанне братніх літаратур

## РАЗМОВА З ПРАФЕСАРАМ МІХАСЁМ ЛАРЧАНКАМ

Міхась Ларчанка, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта — асоба, добра знаёмая не толькі савецкім, але і многім нашым былым студэнтам. Прафесар Ларчанка быў выхавацелем даволі вялікай групы студэнтаў — выхадцаў з Беласточчыны, якія ў мінулым вывучалі беларускую і рускую філалогію ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Прафесара Ларчанку ведаюць таксама многія выпускнікі беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Сустракаліся з ім, калі ездзілі на аднамесячныя стажыроўкі ў БССР, а таксама ў Варшаве. Каля дзесяці гадоў таму назад Варшаўскі універсітэт запрасіў праф. Ларчанку ў Польшчу. Тады праф. Ларчанка прачытаў для студэнтаў беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта цыкл лекцый па гісторыі беларускай літаратуры.

Усім, хто сутыкнуўся з прафесарам, запомнілася яго бадзёрасць духа, аптымізм, сардэчнасць у адносінах да людзей і вечная маладосць.

Я пазнаёміўся з прафесарам у 1957 годзе. Годам пазней выехаў на шасцімесячную стажыроўку ў БССР. Там я шукаў матэрыялы для кандыдацкай дысертацыі. Маім навуковым апекуном з боку Беларускага дзяржаўнага універсітэта быў праф. Ларчанка, і дзякуючы яго дапамозе і сардэчнасці ўдалося мне рэалізаваць свае планы. Нічога дзіўнага, што калі бываю ў БССР, то стараюся ўбачыцца з прафесарам. Але гэтым разам сустрэча наша была выклікана не толькі эмацыянальнымі прычынамі, але і дзелавымі. Справа ў тым, што ў 1974 годзе праф. Ларчанка выдаў кнігу „Яднанне братніх літаратур", у якой значную ўвагу прысвяціў таксама польска-беларускім літаратурным сувязям.

Многа тут піша прафесар Ларчанка аб беларуска-польскім літаратурным супрацоўніцтве ў XIX ст. Заняўся ён і Дунінам-Марцінкевічам, і Янам Чачотам, і Адамам Міцкевічам, і Янам Баршчэўскім, і Уладзіславам Сыракомлем, і Францішкам Багушэвічам.

У даследаванні праф. Ларчанкі знаходзім таксама вялікую колькасць інфармацый, якія адносяцца да польска-беларускага супрацоўніцтва ў XIX ст. Даследчык шырока асвятляе польска-беларускія кантакты ў пачатку XIX ст. і яшчэ шырэй пасляваеннае супрацоўніцтва двух братніх літаратур. Праф. Ларчанка гаворыць дэталёва аб усіх публікацыях беларускіх твораў у Народнай Польшчы і аб перакладах польскай літаратуры на беларускую мову. Інфармуе таксама аб навуковым даследаванні польска-беларускіх сувязей у БССР.

Наша размова з праф. Ларчанкам датычылася перш за ўсё яго навуковай дзейнасці.

**Пытанне:** Якія з сваіх літаратурных даследаванняў залічваеце да найважнейшых?

**Адказ:** Іх многа. Магу назваць толькі кніжныя выданні: „На шляху да рэалізму", „Па шляху рэалізму", „Славянская супольнасць", ну і „Яднанне братніх літаратур".

**Пытанне:** Калі вы пачалі працаваць над сваёй апошняй кнігай?

**Адказ:** Вельмі даўно. Ужо ў трыццатыя гады цікавіўся я працэсамі славянскага літаратурнага супрацоўніцтва. Больш чым 10 гадоў чытаю курс для студэнтаў „З гісторыі беларуска-славянскіх літаратурных сувязей". Канкрэтна, над апошняй кнігай працаваў я на працягу трох гадоў.

**Пытанне:** Якія галоўныя мэты ставілі вы перад сваім даследаваннем?

**Адказ:** Паказаць гістарычнае мінулае і сённяшні дзень. Даказаць, што ў асяроддзях дэмакратычных сіл славянскіх народаў заўсёды жылі тэндэнцыі і імкненні да збліжэння і супрацоўніцтва. Гэтым тлумачыцца тое, што ў сваёй кнізе пачынаю ад старажытнасці, іду праз XVII, XVIII, XIX ст. а канчаю сённяшнім днём.

**Пытанне:** Якія ў вас найбліжэйшыя навуковыя планы?

**Адказ:** Далей працаваць над тэмай славянскіх літаратурных сувязей. Яшчэ многае не высветлена, і таму трэба многа папрацаваць. Па-другое, працую над тэмай „Беларускі гераічны эпас у фантастычных казках". АН БССР рыхтуе ўсесаюзную канферэнцыю, прысвечаную празаічным фальклорным жанрам. Я буду чытаць даклад аб гераічным эпасе ў беларусаў. Даказваю, што эпас такі выступае ў беларускіх казках і, такім чынам, не згаджаюся з Карскім, які выказваў супрацьстаўную думку. Дарэчы, буду звяртацца да беларускіх паэтаў з заклікам, каб пастараліся напісаць гераічную вершаваную паэму, у якой знайшлі б адлюстраванне гераічныя ўчынкі народа ад ранніх стадый гісторыі да сёння. Вы ж таксама паэт, падумайце аб гэтым.

**Пытанне:** Вашы пажаданні ў адрас Польшчы, у адрас „Нівы"?

**Адказ:** Я быў у Польшчы. Паездка дала мне вельмі многа. Сустрэў многа польскіх даследчыкаў, сустрэўся з беларусамі. Мяне цешыць тое, што сёння сацыялістычная Польшча злучана кроўнай дружбай з нашай краінай. Прагну горача яшчэ раз паехаць у Народную Польшчу, сабраць матэрыялы для сваіх даследаванняў па літаратурных сувязях, сустрэцца са знаёмымі, завязаць новыя знаёмствы, пабываць у „Ніве". Думаю, што „Ніва" робіць добрую і карысную работу. Жадаю ёй найлепшых поспехаў.

Гутарыў **Алесь Барскі**

## ШТО НОВАГА?

# У аўтара „Духа Белавежы"

## РАЗМОВА З АЛЯКСАНДРАМ АМІЛЬЯНОВІЧАМ

— Рэдакцыя наша просіць вас прадставіць плён сваёй працы за апошнія тры гады, бо столькі прыблізна часу прайшло ад нашай апошняй з вамі размовы.

— Выйшаў „Дух Белавежы", ужо нават два разы, агульным тыражом у 140 тыс. экз. Чэхаславацкае ваеннае выдавецтва выдае „Духа" ў сябе. Падпісаў я ўмову на 50 тыс. экз. У Савецкім Саюзе гэтая кніжка перакладаецца Уладзімірам Бяляевым. Нядаўна мы пазнаёміліся ў Маскве. Гэта пісьменнік-дакументаліст, таксама выкрывае ваенных злачынцаў. Фанна дэ Зінавой канчае перакладаць кніжку ў Аргентыне.

Фільмовы калектыў „Ілюзіён" у асобах вядомых рэжысёраў Эвы і Чэслава Пэтэльскіх падпісаў умову на фільм паводле „Духа Белавежы". Сцэнарый рыхтуе Сільвестр Шышка (аўтар сцэнарыя „Цёмная рака"). Да мяне дайшла вестка з міністэрства, што нашы гаварылі з адказнымі прадстаўнікамі Савецкага Саюза, каб „Духа" рэалізаваць у двух шырокаэкранных версіях у супрацоўніцтве з Савецкім Саюзам. Рэалізатары хочуць ужо ў палове гэтага года прыступіць да здымкаў для фільма, зразумела, у Белавежы. „Дух" ішоў у чэрвені ў радыёвым цыкле „Штовечар аповесць" (III праграма). Галоўную ролю іграў Станіслаў Мікульскі. Таксама тэлевізія хоча ў адрэзках рэалізаваць гэту аповесць.

— Не адзін ваш „Дух Белавежы" выйшаў з друку ў апошнія гады і не адзін ён сягнуў за межы нашай краіны. У міжнародных кнігарнях паказалася кніжка А. Амільяновіча на рускай мове „Смысл жизни".

— Так, выдаўцом быў „Воениздат", а „Смысл жизни" выйшаў там тыражом у 65 тыс. экз. і адразу быў раскуплены. Зараз у тым жа выдавецтве канчаецца пераклад „Прыгавору", выйдзе з загалоўкам „В тылу врага" — ужо ў канцы гэтага года. „Смысл жизни" поўнасцю ў адрэзках друкаваў „Вечерний Минск". Гэтая газета ў некалькіх адрэзках перадрукавала ў мінулым годзе і „Дух Белавежы". Усе пераклады былі Віктара Астроўскага, нашага земляка, родам з Плюціч. На Літве „Чырвоны штандар" друкаваў „Саўэра", а рад літоўскіх газет давала фрагменты і адрэзкі з розным маіх кніжак.



У краіне ў 1973 годзе выйшлі дзве новыя кніжкі: „Сталёвы шлях" — апавяданні, прысвечаныя бітве за рэльсы на тэрыторыі ўсёй Беласточчыны, і „Мафія" — белетрызаванае апісанне дзейнасці V гітлераўскай калоны на Беласточчыне. У мінулым годзе выйшла ўжо 4-ае выданне „Было гэта над Чорнай Ганчай" і 2-ое выданне „Духа Белавежы". Увогуле год 1973 быў для мяне багаты — дзве новыя пазіцыі і два паўтарэнні.

— Што новага прачытаем у бліжэйшы час?

— У выдавецтве МОН знаходзіцца новая кніжка на 400 старонак „Па слядах ценяў" — гэта ізноў ваенныя перажыванні людзей і пасляваенная барацьба з бандытызмам, вайна ў псіхіцы людзей. На наступны год прадбачыцца новае выданне „Прыгавору" і „Сэнсу жыцця".

— А працуеце над чым?

— Пішу другую серыю „Духа Белавежы" — далейшыя прыгоды Андрэя і Галькі ў канцы вайны і ў пасляваенны час. Прыгоды гэтыя вядуць герояў праз далёкія краіны ў пошуках ваенных злачынцаў. У перапынках рыхтую кніжку рэпартажаў з Аргентыны, дзе нядаўна быў.

— Пытанне, якое задаюць усім пісьменнікам: якую сваю кніжку вы найбольш любіце?

— Так, гэта „Дух Белавежы", яна найбольш выпешчаная, а мо таму, што апошняя? Пісаў я яе тры гады. Прачытаў мноства дакументаў і правёў мноства размоў з людзьмі. Хоць вырасла на дакументах, у ёй я не трымаюся іх цвёрда, а пачаў адыходзіць у бок літаратурнай фікцыі.

Агульны тыраж кніжак Аляксандра Амільяновіча толькі ў Польшчы дасягнуў звыш паўмільёна экземпляраў. Кніжкі гэтага аўтара не залежваюцца ані на полках кніжных магазінаў, ані ў бібліятэках. На яго аўтарскія сустрэчы прыходзяць сотні людзей, а сустрэчы цягнуцца гадзінамі. Сваёй літаратурнай тэмай А. Амільяновіч зрабіў Беласточчыну, зямлю, багатую бурнай і пераможнай гісторыяй. Верны гэтай тэме, сэнс сваёй працы бачыць ён у паказанні гісторыі Беластоцкай зямлі.

Запісала **Вера Леўчук**
Фота **А. Карпюка**




● Там, дзе запланаваныя фэстыны беларускага таварыства, члены БГКТ шмат працавалі грамадска пры падрыхтоўцы месца для ўрачыстасці, трыбуны і дэкарацыі. Так было ў Літвінавічах у Сямяціцкім павеце і ў Саках на Бельшчыне. 21 чэрвеня члены БГКТ у Рыбаках (Беластоцкі павет) грамадскім чынам над рэчкай Нарвай у традыцыйным месцы фэстынаў упрыгожылі пляц.

● На дзень 14 ліпеня запланаваны фэстын БГКТ у Крынках. Рыхтуе яго сакольскі аддзел БГКТ. Зразумела што і там членам БГКТ прыдзецца шмат папрацаваць грамадска і добра абяспечыць урачыстасць з арганізацыйнага боку.

● 21 чэрвеня адбыўся сход гуртка БГКТ у Сідэрцы на Сакольшчыне. Найбольш увагі звярнулі прысутныя на актывізацыю грамадска-культурнай дзейнасці гуртка ў юбілейным годзе нашай дзяржавы. У сходзе прыняла ўдзел інструктар ГП БГКТ на Сакольскі аддзел — Ірэна Андрацкая, якая працуе на гэтай пасадзе ад 1 мая г.г. (мх)




**Niedziela 7.VII.** 7.00 Tech. Rol. 7.50 Przyp., radz. 8.00 Nowoczesność w domu i zagr. 8.25 Bieg po zdrowie. 8.35 Pr. dnia. 8.45 Piłk. Mistrz. Św. 10.15 Z kamerą wśród zwierząt. 10.50 Ex libris. 11.05 MY — 74. 12.15 Dziennik. 12.35 Pr. dla wsi. 12.50 Piosenka dla Ciebie. 13.35 Piórkiem i węglem. 14.00 Estrada Poetycka. 14.15 Bank Miast. 15.30 Los. Toto — — Lot. 15.50 Piłk. Mistrz. Świata. Mecz finałowy. 18.20 Bank Miast II. 18.35 Recital Anny Jantar. 19.00 Refleksje ob. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Bank Miast III. 20.35 Film TVP. 21.30 Nieudana serenada. 21.50 Bank Miast IV. 22.15 Sport.

**Poniedziałek 8.VII.** 10.00 Piłk. Mistrz. Świata. Mecz finałowy (powt.). 16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Echo stad. 17.05 Teleferie. 18.15 Kur. Maz. 18.30 Tańczy Wojciech Wiesiołłowski. 18.45 Kr. Warsz. i Maz. 19.00 Nauka Polska w XXX-leciu. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: Z. Wróbel — Jak to pamiętam... 21.35 Chwila wspomnień — rok 1972. 22.05 Śpiewa Hanna Konieczna. 22.35 Dziennik.

**Wtorek 9.VII.** 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.10 Józef Balsamo — film franc. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Przyjacielskie wizyty. 17.10 Jarema Stępowski. 17.40 Tel. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Konsylium cz. I. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Józef Balsamo — film franc. 21.20 Sport. 21.25 Świat i Polska. 22.10 Spotkanie z M. Czechowiczem. 22.45 Konsylium cz. II. 23.00 Dziennik.

**Środa 10.VII.** 9.00 Mat. w szkole. 10.05 Człowiek bez adresu — film fab. radz. cz. I. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Papusza — rep. film. 17.05 Los. Mał. Lot. 17.15 Pr. publ. 17.45 Śpiewa Karel Gott. 18.25 Kr. Warsz i Maz. 18.45 Reportaż z kopalni „Rudna". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Człowiek bez adresu — film fab. radz. cz. I. 21.30 Sport. 21.40 Z siedmiu anten. 22.20 Dziennik.

**Czwartek 11.VII.** 8.30 Mat. w szkole. 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Mat. w szkole. 10.30 Kradzież w muzeum — film fab. radz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Gra Orkiestra TV Katowice. 17.00 Teleferie. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Rodzina Wesołowskich — rep. film. 19.00 Test — Sł. Ekonom. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Festiwal Pios. Zołn. — Kołobrzeg 74 — Koncert Inauguracyjny. 22.00 Czym żyje świat. 22.30 Dziennik. 22.45 Sport. 23.05 Inf., Tow., Prop.

**Piątek 12.VII.** 10.00 Al Capone i inni — film ameryk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Wych. fiz. receptą na zdrowie. 17.05 Film Dokument. 17.55 Studio Zlotowe Tel. Mł. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Ludzie z plakatów. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Al Capone i inni — film ameryk. 21.10 Panorama. 21.50 Teatr TV: G. Morcinek — Pokład Joanny. 23.15 Dziennik. 23.30 Sport.

**Sobota 13.VII.** 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.05 Tydzień szaleńców — film fab. rum. 15.40 Pr. dnia. 15.45 Pr. I prop. 16.00 Inf. Wyd. 16.30 Dziennik. 16.40 Szare na złote. 17.00 Mecz lekkoatlet.: RFN — Polska. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Jadzia wdowa — komedia muz. 22.00 Dziennik. 22.20 Sport. 22.35 Tydzień szaleńców — film fab. rum.




**Piątek 5.VII.** 8.00 Spektakl TV. 9.20 Piosenka — 74. 12.40 Pr. dnia. 16.30 Piłka nożna. Półfinał pucharu ZSRR. „Dynamo" (Tbilisi) — „Dynamo" (Kijów). 18.15 Koncert. 19.30 Pr. estradowy. 20.50 Mistrzostwa ZSRR w pływaniu.
**Sobota 6.VII.** 7.00 Pr. dnia. 8.30 Koncert życzeń. 14.15 Filmy anim. 16.00 Mistrz. świata w piłce noż. 18.00 Film fab. 19.30 Koncert. Transmisja z Teatru Wielkiego. 21.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Mińsk) — „Kuzbas" (Kiemierowo).
**Niedziela 7.VII.** 7.00 Pr. dnia. 11.15 Film fab. 13.35 Koncert. 14.30 Filmy anim. 15.00 Klub film. 16.00 Mistrz. świata w piłce noż. 18.15 Opera. Przedstawienie teatru La Scala z Mediolanu.




**Białowieża** Audiencja — włos. 9—10. Siódma kula — radz. 11—12. Samuraj i cowboje — franc. 13—14.

**Czeremcha** Roztargniony — franc. 9—10. Niebieskie jak morze Czarne — pol. 13—14. Mordercy w imieniu prawa — franc. 16—17.

**Czyże** Godzina szczytu — pol. Wesele — pol. 10—14.

**Dubicze Cerkiewne** Drogi mężczyzn — czes. Słoń z indyjskiej dżungli — radz. 10—14.

**Gródek** Jakow Bogomołow — radz. 13—14.

**Kleszczele** Przygody Tomka Sawyera — radz. 9—10. Tropiciel śladów — rum. 11—12. Ogniomistrz Kaleń — pol. 13—14.

**Michałowo** Śmiech w ciemności — angl. 9—10. Bullit — USA 11—12. Zimorodek — radz. 13—14.

**Mielnik** Śmierć Indianina — rum. 9—10. Podróże z Jakubem — węg. 11—12. Monolog — radz. 13—14.

**Milejczyce** Cyrk bez granic — rum. 9—10. Znaki na drodze — pol. 11—12. Nie będę cię kochać — pol. 13—14.

**Narew** Góry, rzeki, ludzie — pol. Mordercy w imieniu prawa — franc. 10—14.

**Narewka** Lipowa akacja — węg. Ściana czarownic — pol. 10—14.

**Nurzec** Pożądanie zwane Anadą — czes. 9—10. Przerwana pieśń — bułg. 11—12. Zbrodnia jest zbrodnią — franc. 13—14.

**Orla** Smic, smac, smoc — franc. Telegram — radz. 10—14.

**Rajsk** Nareszcie poniedziałek — węg. Raport 36 — koreań. 10—14.

B.Z.Graf. zam. 1799 O-3

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 186

* ❊ *

*У зялёнай калысцы з лугоў*
*Прыкрытай блакітам высокім*
*Сярод дрэў гаманлівых багоў*
*Пазнаваў рытуальныя крокі*
*З маткай крок*
*З бацькам крок*
*І далей*
*Наступны ўжо самастойны*
*Дык адважней*
*Дык толькі смялей*
*Да далёкай далёкай мэты*
*Да калыскі не вернемся больш*
*Калыску сваю зненавідзіш*
*Толька сёння ў сэрцы боль*
*Палымнее устыдам.*

**Алесь Барскі**



### ТАБЕ З ДУМКАЙ АБ ТАБЕ

Па гэтай гутарцы
Што яе яшчэ не было
Не застанецца
Ніякага следу
Вядома што не застанецца

Вецер
Высушыць апошнюю слязу
Што паплыве
Па тваім твары
Можа быць — слёз не будзе
Можа быць — вецер не павее

Енк праязджаючага самахода
Заглушыць твае апошнія
Словы
Можа быць — не апошнія
Можа быць — самаход не будзе ехаць

Адыходзіш
Твае крокі стукаюць як маё сэрца
Шырокім адбіваюцца рэхам
Можа быць — ты не адыходзіш
Можа быць — сэрца біць перастае

Апошняя гутарка
А можа быць — не апошняя
Можа быць — яе зусім не будзе

**Наташа Грыбок**



### АГАРОДНІК

*Кветкі-галоўкі — нізка над партамі.*
*Ціша.*
*Толькі пёры скрыпяць працавіта.*
*Хвіліна ўрачыстая:*
*Упарта*
*пішацца першая літара.*
*Між радамі парт —*
*агароднік між градкамі,*
*настаўніца.*
*Маршчыны.*
*Іней у валасах...*
*Усмешкай падбазёрыць,*
*словам.*
*А ў чулым позірку —*
*маладосць, краса.*

**Алесь Свісёк**

* ❊ *

Пад тваё крыло ляцяць,
Каб адарваць кусок спакою.
Аўтобусы і цягнікі іх выгружаюць.
А ты паўнееш кожным святам,
Статная і ціхая,
Вачамі сонных хат,
старых бяроз і вербаў,
кронамі
вітаеш моўчкі.

Да цябе загнаныя ў свет
дарогамі па шчасце
вяртаюцца паніклыя,
здранцвелыя хлуснёю сэрцы.

Плачуць, пакланяюцца
і плачуць —
пазнаюць; як дзяўчыну
кожны дом, стоўб ад плоту.
Адыходзяць ізноў
па дарогах крутых,
Смехам — горыч расстання
з табой пакрываюць.
Астаешся спакойная,
адвечна спакойная,
хаты пад стрэхамі
і слова — ВЁСКА.

**Вераніка Леанюк**

* ❊ *

*Думкі*
*думкі*
*думкі —*
*адна за адной...*
*Сам сабе я іх у падарунку*
*шлю.*
*Людзям не хачу адкрывацца.*
*Яны і я —*
*два полюсы.*
*Сам з сабой*
*заўсёды я магу*
*пагутарыць.*
*Вёску далёка пакінуўшы,*
*зарыўся сабою*
*ў людзі...*
*І мне здаецца, што*
*пакінуў сам сябе*
*я там,*
*і толькі, марамі,*
*успамінам*
*туды я прыбягаю.*
*І гэта шчасце,*
*гэта спеў*
*мяне самога.*
*Праслаўная*
*мне*
*думка.*

**Юра Харкевіч**

### САНЕТ АБ КРАСАВАННІ

Ў садах вішнёвых, у сонца ручаінах,
Набіраюцца вішні блескам рубіновым,
Спелым блескам лета, пахам траў ліпнёвых,
А сонечныя косы ўюцца ў галінах.

У садах на сонцы даспяваюць яблыкі,
Травы іх румяныя песціць цёплы вецер.
Мёдам пахне ліпы залатое квецце,
Салавей галосіць спеў свой серабрысты.

Пры ўсходзе сонца нясецца грукат грому,
Які зямлёй калыша пры вясны світанні,
Які прыносіць радасць сэрцу маладому.

Заслуханы ў жыцця бурлівасць, сню я сны
Аб вечнай маладосці, вечным красаванні,
Аб бессмяротнасці, неўміручасці зямлі.

**Юрка Баена**



## З ВІЗІТАМ — ГРОДЗЕНЦЫ

### КУРГАН

За ціхай ракою раскінуўся гай.
Вясною там белай чаромхі пурга.
Улетку там ліпа цудоўна цвіце,
а восенню золата вецер мяце.
Над ціхай ракою — высокі курган.
У ім спачывае герой-партызан.
За мірнае неба жыццё ён аддаў...
Курган абмывае рачная вада.
Салоўка спявае над ім па вясне
і сыпле чаромха пялёсткавы снег.
А ўлетку там ліпа цудоўна цвіце,
а восенню золата вецер мяце...

**У. Бармута**

* ❊ *

*Так мала слаў лістоў дахаты,*
*Хоць іх чытаць любіў мой тата.*

*Татулька роднага не стала.*
*Шкадую, што пісаў так мала.*

*Далей няшмат пісаў таксама*
*Чытаць не ўмела мая мама.*

*Цяпер хварэю я душою.*
*Няма бацькоў, няма спакою.*

**Віктар Швед**

У бары — чэшскае піва. Пахне потам і святочнасцю. На двары — нядзельны поўдзень, безгадзіннікавы.

Пад каляровымі парасонамі мужчыны ласуюцца півам, свабодныя, пагодныя. У бары халадок, бы ў садку, і пена на піве, бы цвет садавіны...

Элегантны мужчына даносіць піва і пытае — колькі яшчэ? У голасе ўпэўненасць таго чалавека, у якога заўсёды грошы... Недзе разбіўся куфаль. Нехта брыдка лаецца.

Элегантна апрануты — расхрыстаўся.

Усюды куфлі, куфлі...




Нехта прарочыць атамную вайну, а потым даказвае, што гэта немагчымае. Па чэшскім піве ўсё магчымае. Чысценькі мужчына паваліўся на бетонную падлогу, на якой разбітае шкло. Яго тузанулі за валасы, а гоман, што падняўся, заглушыў яго енкі.

Па чыёйсьці спіне ляскала міліцэйская палка, з сумным, можна сказаць, абыякавым рэхам.

Мужчынскі поўдзень не закончыўся і не закончылася піва. Цудоўнае чэшскае піва, калі піць яго ў бары „Прага".

**Кастусь Бандарук**



## АПАВЯДАННЕ ПРА НЕНАПІСАНУЮ АПОВЕСЦЬ

Вярнуўся Васіль з працы тады, калі сонца хавалася за малую хатку. Стаяла яна воддаль ад шматпавярховых дамоў новага мікрараёна. У адным з гэтых вяжоўцаў жыў Васіль. Кватэра была на пятым паверсе. Ужо каторы дзень рамантавалі ліфт. Васіль паволі падняўся да сябе, моўчкі распрануўся. Сеў каля стала на кухні. І стаў сачыць за чырвоным дыскам, які непрыкметна хаваўся за старою хатай.

Жонка бразгала пасудай. Наліла гарачай капусты, нарэзала хлеба. Усё гэта паставіла перад Васілём.

— Вясна ідзе, а Галя без паліто, — паведаміла Вольга, наліваючы кампот.

— Чаму не купіш? — буркнуў Васіль. І адлажыў лыжку: апетыт прапаў.

— За што? — закіпела жонка. І моцна выціснула шмату, якою мыла гаршкі — чатырыста злотых заплацілі за кватэру. Тысячу дзвесце — каўцыі. Што засталося? А да палучкі дванаццаць дзён. Як ты думаеш жыць далей?

— Я ж працую, — адказаў разгублена Васіль. І стаў нервова камячыць мякіш хлеба.

— Працуеш, — са злосцю паўтарыла Вольга.

Сонца схавалася за старую хату. Васіль думаў: добра тым, хто жыве ў ёй. Можна пасядзець у цяні грушы або яблыні. Паслухаць, як квакаюць жабы, стракочуць кузнечыкі... Удыхаць водар начных кветак, піць сцюдзёную ваду. А тут вада смярдзіць хлоркай, ды чуваць, як шуміць вада, спушчаная суседам у прыбіральні.

— Схадзі ў магазін, — перарвала думкі Васіля жонка. — Купі булку хлеба, кавы, дзесяць яек і шпульку чорных нітак. І палажыла на стол пяцьдзесят злотых.

Васіль працаваў на фабрыцы. Зарабляў добра. Але ўсё роўна не хапала. Сын і дачка хадзілі ў школу, жонка была за гаспадыню ў хаце.

Задумаў Васіль напісаць кніжку. Думка гэта нарадзілася выпадкова. Яго заўсёды, як магнітам, цягнула да лістка чыстай паперы. Аднойчы ў час начнога дыжурства стаў запісваць усё, што прыходзіла ў галаву. Ранкам, прыйшоўшы дахаты, прачытаў. І здзівіўся. Атрымалася апавяданне. Паслаў у рэдакцыю часопіса. Ішоў час. Васіль купляў часопіс і з хваляваннем шукаў свайго прозвішча. Дарэмна. Раззлаваўся і перастаў купляць.

Аднойчы ў паштовай скрынцы знайшоў паведамленне. Адразу пабег на пошту. Гэта быў ганарар за апавяданне. Пазней атрымаў ліст. Рэдакцыя прасіла яшчэ даслаць некалькі апавяданняў...

Была субота. Цесната ў магазіне, як на вакзале перад адыходам прыгараднога цягніка. Бракавала кошыкаў. Іх проста з рук рвалі. Васіль не стаў чакаць, пайшоў да аддзела. Тут усе былі знаёмыя і ніхто яго не затрымаў. Выбраў каву, яйкі, хлеб. І стаў у чаргу да касы.

— Дваццаць чатыры трыццаць, — сказала беленькая касірша ў блакітным фартушку. На грудзях быў прыколаты значок з надпісам: „Вучаніца".



